*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) №7 (219) 15 лютага 1995 г. Кошт — 100 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЎ СПІКЕР ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЫ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ ІВАН РЫБКІН.** Ён сустрэўся і правёў перамовы з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, са Старшынёй Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам, прэм'ерам Міхаілам Чыгіром, міністрам замежных спраў Уладзімірам Сянько і іншымі афіцыйнымі асобамі нашай краіны. Гаворачы пра эканамічную інтэграцыю Беларусі і Расіі, Іван Рыбкін сказаў: «Канешне, Расія па сваіх людскіх і прыродных рэсурсах сама можа выйсці з крызісу, але гэтая думка нас не можа заспакойваць, калі мы ведаем, што 25 мільёнаў чалавек, якія лічаць Расію сваёй малой радзімай, апынуліся за яе межамі і зараз знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы». А ў самой Расіі ўсе працвітаюць?

○ ***СПІКЕР ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЫ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ ІВАН РЫБКІН ВЫСТУПІЎ У БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНЦЕ.*** *Заявіўшы, што нашы дзве краіны могуць зрабіць свае адносіны эталоннымі, ён, па сутнасці, дэзавуіраваў прапанову Дзярждумы правесці сумеснае пасяджэнне парламентаў дзвюх краін. Сам факт з'яўлення ў беларускім парламенце Івана Рыбкіна не ўсім дэпутатам прыйшоўся даспадобы. І не дзіўна, калі памятаць пра тое, што расійскія войскі ўжо два месяцы ваююць у Чачні.*

○ **СТАЛІ ВЯДОМЫ ТЭРМІНЫ ВІЗІТУ Ў НАШУ КРАІНУ ПРЭЗІДЭНТА РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА.** Ён адбудзецца 21—22 лютага. Галоўная мэта візіту — падпісанне Пагаднення аб добрасуседстве і супрацоўніцтве.

○ ***У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, У ЯКІМ ГАВОРЫЦЦА:*** *«У сувязі са спыненнем паўнамоцтваў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь перадаць Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь правы заснавальніка газеты «Советская Белоруссия».*

○ **У НЬЮ-ЙОРКУ АДБЫЎСЯ МІЖНАРОДНЫ СІМПОЗІУМ ПА ПРАБЛЕМЕ СТРАЧАНЫХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ І ДУХОЎНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ.** Беларусь на ім прадстаўляў дырэктар Нацыянальнага цэнтра імя Ф.Скарыны Адам Мальдзіс, які выступіў з дакладам аб трагічным лёсе беларускіх музейных і бібліятэчных збораў у час Другой сусветнай вайны. Згодна з заключэннем рабочай групы, Беларусь страціла ў вайну толькі 3 працэнты сваіх збораў (Украіна — 60 працэнтаў, Расія — 35 працэнтаў). На што Адам Мальдзіс сказаў: «Хутчэй было наадварот: у нашай краіне засталося ўсяго 3 працэнты каштоўнасцей...»

○ ***ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА НАВЕДАЎ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ ЛІТВУ,*** *дзе ім быў падпісаны беларуска-літоўскі Дагавор аб добрасуседстве і супрацоўніцтве.*

○ **У МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ ЗАРЭГІСТРАВАНА ГРАМАДЗЯНСКАЯ ПАРТЫЯ.** Яна выступае за дзяржаўны суверэнітэт нашай краіны, за развіццё роўных дружалюбных адносін і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з усімі суседзямі.

○ ***У МЕНСКУ ПРАЙШЛІ КУРСЫ*** *павышэння кваліфікацыі для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры з краін блізкага замежжа, арганізаваныя Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына».*

МОЛІМСЯ ПА-БЕЛАРУСКУ. Стар. 2.

ЦІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА 23 ЛЮТАГА СВЯТОЧНЫМ ДНЁМ ДЛЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ? Стар. 4.

БЕЛАРУСКІЯ ФОРМЫ ПРОЗВІШЧАЎ І ІХ ПЕРАДАЧА НА ІНШЫЯ МОВЫ. Стар. 5

*Анатоль БАРОЎСКІ*

* * *

***Мне чужога не трэба — маё мне вярніце,***
***што прымусам і гвалтам ад нас аднялі.***
***Не скараўся ніколі васілёк наш, што ў жыце, —***
***сімвал роднай ліцвінскай Радзімы-зямлі.***
***Нам не згінуць, не знікнуць у гэтым сусвеце, —***
***хоць як нас не душылі, кідалі ў агонь...***
***Падымаліся ў рост са штандарамі дзеці,***
***і малітву чыталі: «Хрыстос, абаронь!..»***
***Нам чужога не трэба — ім сыты па горла.***
***Мы без Мовы і Бога — адно жабракі.***
***Колькі можна цярпець і знявагу, і гора —***
***нам жа шчасце прарочыў Бог — на вякі!***
***Мне вярніце маё. Не майго мне не трэба.***
***Абдыму я рукамі наш вольны абшар —***
***буду жыць я пад сонцам, аблашчаны небам,***
***і — зямлю засяваць... Я ж — Зямлі Гаспадар.***

## дзе што?

* * *

*У лістападзе 1994 года на пасяджэнні савета па абароне дысертацый на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі адбылася абарона дысертацыі В.М.Курцовай «Стан вясковага народнага вымаўлення ў паўночна-ўсходняй Гомельшчыне». Навуковы кіраўнік вядучы навуковы супрацоўнік кандыдат філалагічных навук А.А.Крывіцкі.*

# Захаваць Верхні горад!

## Адкрыты ліст старшыні Мінгарвыканкама сп.У.Ярмошыну

Пытанне пра захаванне апошніх сапраўдных помнікаў нашай гісторыі і культуры, што засталіся ў Верхнім горадзе — гістарычным цэнтры Менска, патрабуе самай пільнай увагі грамадства і асабліва службовых асоб. Заказчыкам усіх работ і адпаведна адказнымі за ўсё, што там адбываецца, з'яўляецца акцыянернае таварыства «Стары Менск». Практычна на ўсіх помніках, на якіх мусяць праводзіцца рэстаўрацыйныя работы, парушаюцца элементарныя метадыкі ў гэтай галіне. А ў большасці выпадкаў пад шырмай рэстаўрацыі будынкі XVIII-XIX ст. цалкам знішчаюцца (па вул.Інтэрнацыянальнай № 21/3, 25, 27, 33а, Герцэна 2а, 4, 6, 8 і па Музычным завулку,1).

На сённяшні дзень у Верхнім горадзе захаваўся толькі адзін помнік канца XVIII стагоддзя — жылы дом № 31 па вул.Інтэрнацыянальнай, дзе цалкам захавалася аўтэнтычнасць канструкцый. Рэалізацыя праектна-каштарыснай дакументацыі па яго рэканструкцыі і прыстасаванні пад філію бібліятэкі прывядзе да страты каштоўнага помніка, як гэта адбылося з іншымі будынкамі Верхняга горада.

Акрамя таго, ёсць звесткі, што ў двары кляштара базыльянак плануецца ўзвядзенне буйнога сучаснага комплексу з падземнымі гаражамі. Гэта супярэчыць першапачатковай канцэпцыі рэгенерацыі Верхняга горада і прывядзе да значных страт, знішчэння культурнага слоя.

Да гэтага часу не праведзена кансервацыя рэшткаў муроў і часткі роспісаў разбуранага летась дома № 2 па вул. Герцэна.

Просім звярнуць увагу на парушэнні заканадаўства і навуковых метадык рэстаўрацыі Верхняга горада і прыняць неабходныя меры дзеля выратавання помнікаў старога Менска. На наш погляд, тут павінен быць рашучы падыход з боку гарадскіх уладаў, каб спыніць знішчэнне Верхняга горада як комплекснага помніка архітэктуры, горадабудаўніцтва і археалогіі, каб прыцягнуць да адказнасці чыноўнікаў, якія спрыялі гэтаму.

Трэба тэрмінова правесці кансервацыю муроў, якія цудам захаваліся, а таксама рэшткаў жывапісу XVIII-XIX стагоддзяў (дом № 2 па вул.Герцэна).

Неабходна распрацаваць навукова абгрунтаваны праект рэстаўрацыі дома № 31 па вул.Інтэрнацыянальнай, які б прадугледжваў поўнае захаванне і кансервацыю ўсіх яго гістарычных канструкцый, а пасля гэтага вырашаць пытанне пра яго рэстаўрацыю і далейшае выкарыстанне.

На нашу думку, нельга праектаваць і ўзводзіць ніякіх падземных ці наземных сучасных пабудоў у Верхнім горадзе.

Мы просім правесці грамадскае абмеркаванне праектаў рэканструкцыі Верхняга горада і фактаў парушэння заканадаўства па ахове помнікаў у гістарычным цэнтры Менска з удзелам дзяржаўных структур, грамадскіх установаў, творчых саюзаў і ўсіх зацікаўленых асоб.

**Мікола КУПАВА,**
**старшыня Камісіі па культуры Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».**

## Шаноўныя чытачы!

Яшчэ раз звяртаемся да вас з прапановай адказаць на наступныя пытанні:

Што б вы хацелі прачытаць у газеце «Наша слова»?

Назавіце 10 рубрык газеты, якія для вас найбольш цікавыя, расставіўшы іх у адпаведным парадку.

Паведаміце, з якога часу вы чытаеце «Наша слова», сваю прафесію, адукацыю, узрост і месца жыхарства.

Маёр
*В.ШЫПКО*
з Мядзельшчыны

Палкоўнік
*П.ПЕСКЕЖАЎ*
з Дрыбіншчыны

Лейтэнант
*С.КАСМАЧОЎ*
з Мсціслаўшчыны

**Сыны Беларусі, афіцэры расійскай арміі, сталі ахвярамі расійскага імперыялізму. Маёр В.Шыпко загінуў у 1993 годзе падчас неаб'яўленай вайны ў Абхазіі. Палкоўнік П.Пескежаў і лейтэнант С.Касмачоў — у расійска-чачэнскай вайне.**

Жыццё Таварыства

# У старадаўняй Гародні

Напярэдадні пяцігоддзя з дня прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб мовах у абласным цэнтры адбылося сумеснае пасяджэнне абласной і гарадской рад ТБМ імя Ф.Скарыны. Прысутныя абмяркавалі надзённыя і перспектыўныя праблемы рэалізацыі дзеючага моўнага заканадаўства на Гродзеншчыне, вызначылі задачы мясцовых арганізацый Таварыства вобласці ў перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет. Былі аднагалосна прыняты адпаведная пастанова і зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

У першым са згаданых дакументаў падкрэслена, што на Гародзеншчыне Закон аб мовах ажыццяўляецца, не зважаючы на актыўнае супрацьдзеянне, якое апошнім часам шырока і паўсюдна распачата пэўнымі антыбеларускімі палітычнымі сіламі. У сувязі з гэтым прызнана мэтазгодным працягваць супрацоўніцтва са здаровымі сіламі ўладных структур з мэтай больш поўнага ўдзелу дзяржорганаў у няўхільным і паслядоўным выкананні моўнага заканадаўства. Таксама прадугледжана ўсяляк пашыраць сетку нізавых мясцовых адзінак Таварыства (суполак, калектыўных сябрын), ператвараючы іх у надпалітычную нацыянальна-асветніцкую сілу, якая гуртуе вакол сябе сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны. Намечана даваць рашучы адпор любым праявам нацыянальнага нігілізму і грэблівага стаўлення да нашай дзяржаўнай мовы, рэкамендаваць усім суполкам ТБМ імя Ф.Скарыны вобласці прыняць актыўны ўдзел у святкаванні 50-годдзя перамогі ў мінулай вайне.

У прынятым тэксце звароту да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці, адзначаецца: выбіраючы Прэзідэнта, беларускі народ спадзяваўся, што гэта вышэйшая дзяржаўная службовая асоба стане на Беларусі цвёрдым гарантам яе спакою, дабрабыту, сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці. На жаль, такія спадзяванні, гаворыцца ў звароце, застаюцца пакуль нязздзейсненымі, бо ў той час, калі большасць нашых грамадзян нармальна ўспрымае працяг адраджэння нашай культуры і матчынай мовы, першы беларускі Прэзідэнт часта допускае публічныя выказванні, дзе годнасць дзяржаўнай мовы адкрыта прыніжаецца і нават зневажаецца. Заканчваецца дакумент рашучым патрабаваннем да Прэзідэнта накіраваць усю ўладу, дадзеную яму Канстытуцыяй, на абарону нашай дзяржаўнай незалежнасці, нашай самабытнай беларускай культуры і мовы: «Вы прынялі ў свае рукі незалежную краіну і праз пяць гадоў яна павінна заставацца незалежнай Рэспублікай Беларусь, а не ператварыцца ў расійскі Паўночна-Заходні край».

**Наш карэспандэнт.**

РЭХА

## Чый патрыёт А.Прушынскі?

Здзіўляе публікацыя пра асобу А.Прушынскага. Навошта? Здруку ведаю, што з ягоным удзелам у Заходняй Беларусі выдаецца газета на польскай мове «Прызмат», якая мае антыбеларускую накіраванасць. Што гэта за патрыёт, які спрыяе паланізацыі Беларусі?! Чым заходнія «далучальнікі» лепшыя за ўсходніх, якія зараз кіруюць нашай дзяржавай?

**Л.Ц.МІШЫН.**
г.Менск.

**Ад рэдакцыі.** Публікуючы гутарку з А.Прушынскім, мы адно хацелі — паказаць чытачам асобу, пра якую гавораць, каб кожны сам зрабіў выснову пра ягоныя вартасці як грамадскага дзеяча, якім спадар імкнецца стаць. У той жа час шкадуем, што карэспандэнт не задаў такое сапраўды важнае пытанне пра «далучальнікаў» і падтрымку газеты на польскай мове.

Прапановы

# Молімся па-беларуску

З далёкага дзяцінства мне запомніліся малітвы, якім навучылі мяне маці, а пасля — бацюшка на ўроках рэлігіі. Але ўсе тыя малітвы — на малазразумелай царкоўнаславянскай мове. Нават маці не ведала, як па-беларуску дакладна разумець іх пэўныя месцы. У пачатковай польскай школе значэнне старaславянскіх царкоўных слоў на ўроках тлумачыў бацюшка.

Праўда, для большасці вясковых дзяцей адукацыя завяршалася чатырма абавязковымі класамі народнай школы. Таму пачутыя ў школе тлумачэнні царкоўнаславянскай тэрміналогіі з цягам часу забыліся, і штодзённыя малітвы ў нашых хатах звычайна паўтараліся механічна, без разумення зместу. Але сёння дзецям патрэбны малітвы на роднай беларускай мове. Упэўнены, што шчырая малітва і праваслаўнага і каталіцкага дзіцяці будзе абавязкова пачута Богам.

Незвычайную сілу малітвы я асабліва адчуў, калі служыў у польскім войску ў 1937—38 гадах. Кожную раніцу і ўвечары нас выстройвалі да малітвы, мы хорам спявалі «Kiedy ranne wstaja zorze» («Калі світае»), «Wszystkie nasze dzienne sprawy» («Усе нашы штодзённыя справы»). Словы гэтых малітваў-песень я помню і сёння. Напісаў іх, здаецца, польскі паэт Юльян Нямцэвіч.

Мне даводзілася часам тады па нядзелях вазіць жаўнераў у касцёл, дзе заўсёды ўсе прысутныя пелі «Boze, cos Polskę przez tak długie wieki» («Божа, які бараніў Польшчу доўгія вякі»). Як магутна, урачыста і ўзнёсла грымела песня пад высокім купалам касцёла. Яна яднала ўсіх вернікаў у адно цэлае, мацуючы пачуццё нацыянальнай свядомасці.

Я лічу, што і сёння не пашкодзіла б, каб салдаты нашага беларускага войска штодзённа спявалі малітвы. Прадбачу, што тут нехта скептычна ўсміхнецца, але я перакананы: гадоў праз пяць гэтак будзе. Трэба толькі, каб знайшоўся кампазітар, які падабраў бы для іх адпаведную ўрачыстую мелодыю. Гэта мела б вялікае выхаваўчае значэнне для нашай моладзі.

### Пасля сну раніцай

Магутны Божа — валадару,
Што свет трымаеш пад апекай.
Прымі маленькую ахвяру
Твайго тварэння — чалавека.
Цябе шукаюць мае вочы,
Што я ад сну цяпер расплюшчыў.
Зрабі, каб пасля цёмнай ночы
Я быў разумны і відушчы.
Ты накіруй мае ўсе думкі
На шлях дабра, любві, спагады.
Ты маім будзеш паратункам,
Калі ў жыцці не дам сам рады.
Прашу Цябе: хай абмінае
Мяне трывожнае і злое.
Няхай мой розум прасвятляе
Слова Евангелля святое.
Амінь.

### На сон вечарам

Дай мне, Божа, сон спакойны
Анёла мне свайго пашлі,
Каб пад крылом святым ягоным
Турботы прочкі адышлі.
Каб адпачыць душой і целам
Ад лішніх клопатаў зямных.
Прашу ў Цябе хоць і нясмела
Спакой душы ля ног Тваіх.
Хай сон мне дасць і моц і сілу
Праславіць працай новы дзень,
Каб твая воля, Божа мілы,
Была законам для людзей.
Амінь.

### Перад ядой

Пана Бога
Прашу я не многа,
Даць сілу для працы —
З нястачай змагацца.
Каб стол самавіта
Ядой быў накрыты.
Народ мой, каб сто год
Не ведаў пра голад.
Каб з Божае ласкі
У дзіцячых калясках
Саплі немаўляты.
А мамы і таты
У пашане да Бога
Трымаліся строга.
Як свет стаіць святам
Яго запаветаў.
Амінь.

### Пасля яды

Мы дзякуем небу
За лустачку хлеба.
Мы дзякуем Богу
За сілы ў дарогу.
Тварэнню жывому
Старому, малому,
На кожнага долю
Ты шчодрай рукою
Даруеш усім ежу,
Каму што належыць.
Амінь.

### Перад урокамі

У добрым здароўі за школьнаю партай
Ты сутнасць жыцця разгадаць памажы,
Каб мы без ляноты, настойліва, ўпарта
Вучыліся, як трэба сумленна пражыць.
Хай будуць настаўнікі нашы ў пашане
Яны навучаюць нас толькі дабру.
Хай Бог не раз іх нам у душы загляне,
Малітву за іх я Табе сатвару.
А Ты дай мне сілу прадоўжыць навуку,
Дай моц перадолець нягоды, бяду,
Няхай Твая воля мне будзе парукай,
У Тваёй дабрыні дапамогу знайду.
Амінь.

### Пасля ўрокаў

Мы дзякуем Богу і нашым настаўнікам,
Што нам адкрываюць навукі сакрэты,
Што іхняе слова дапамагае
Упэўнена крочыць да светлае мэты.
Каб мы, як бацькоў сваіх, іх шанавалі,
Трымалі ў памяці мудрыя словы.
Каб зло і дабро ў свой час распазналі,
Каб розуму больш Бог паклаў у галовы.
Амінь.

***Магчыма, гэтыя радкі прачытае і сябра рэдкалегіі «Нашага слова», мой даўні знаёмы Янка Брыль. Відаць, ён не здзівіцца, што я на старасці гадоў вырашыў прапанаваць па-беларуску некалькі малітваў, бо станоўчае ўздзеянне на чалавечыя душы слоў да Бога людзям нашага пакалення добра вядома. Жыве Беларусь!***

**Уладзімір СІЎКО.** г.п.Любча, Гродзеншчына.

Меркаванні

# Некаторыя «за» і «супраць»

Пытанне аб паходжанні старажытнарускай мовы непасрэдна датычыцца нашых настаўнікаў. У сваёй кнізе «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» А.І.Жураўскі піша, што ў мінулым стагоддзі пануючым быў погляд аб старарускай літаратурнай мове як мове старaславянскай. Апошняя на старарускай глебе ўвабрала ў сябе элементы мясцовых гаворак, што прывяло да ўтварэння ўсходнеславянскага варыянту яе. У 30-я гады ХХ ст. акадэмік С.Абнорскі на падставе аналізу «Рускай праўды» зрабіў выснову, што напачатку старaруская мова зусім не адчувала ўплыву з боку старaславянскай, гэта адбылося пазней.

У 60-х гадах сярод даследчыкаў зноў пашырыўся погляд аб паходжанні старажытнарускай літаратурнай мовы з старaславянскай. Яшчэ далей пайшлі сучасныя беларускія навукоўцы, адмаўляючы не існаванне як мовы самастойнай, асобнай. Па дадзеных падручніка «Древнерусский язык» адзначаецца толькі 8 фанетычных адрозненняў яе ад царкоўнаславянскай. А вось Ф.Янкоўскі паміж роднаснымі беларускай і рускай мовамі знаходзіць 27 фанетычных, 43 марфалагічных і шматлікія іншыя адрозненні. На гэтай падставе І.Ласкоў зрабіў выснову, што «старажытнарускай мовы ніколі не існавала ні пісьмовай, ні вуснай, а былі гаворкі палянаў, драўлянаў, крывічоў і г.д.».

Падобных поглядаў прытрымліваюцца і аўтары «100 пытанняў з гісторыі Беларусі», якія прыводзяць нямала доказных і пераканаўчых фактаў у падтрымку сваёй пазіцыі. Але ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (1987 г., т.5) напісана, што Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 г. працягвае кніжную традыцыю старажытнарускай мовы і адначасова адлюстроўвае ўплыў тагачасных народных гаворак. У новых выданнях беларускай Акадэміі навук гэта пазіцыя цвёрдая і нязменная (гл., напрыклад, «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі» (1993 г.). Праўда, у «Нарысах гісторыі Беларусі» (1994 г., т.1) Г.В.Штыхаў паведамляе пра названыя супярэчнасці, але аўтар не адыходзіць ад традыцыйнай канвы. у самай, мабыць, апошняй калектыўнай працы, выдадзенай АН у мінулым годзе «Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы» пад рэдакцыяй А.Я.Баханькова, гэта асабліва добра прасочваецца: «Беларуская старажытная літаратурна-пісьмовая мова фарміравалася на аснове старажытнарускай пісьмовай мовы па меры пранікнення ў яе беларускіх фанетычна-граматычных і лексічных асаблівасцей».

Аўтарытэт АН прымушае настаўнікаў лічыцца з гэтай пазіцыяй, з высновамі яе вучоных і паводле іх адпаведна фарміраваць і свае погляды.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
г.Ашмяны.

У ГАЗЕТАХ

# «Сталіца»: не толькі аб хлебе надзённым

З канца мінулага года ў Менску пачаў выходзіць двухмоўны 16-палосны штотыднёвік «Сталіца», які па пятніцах выпускаецца рэдакцыяй гарадской газеты дэмакратычнага накірунку «Добры вечар». Выданне, разавы наклад якога ў канцы студзеня г.г. складаў 55 тысяч паасобнікаў, разлічана на самую шырокую аўдыторыю. Тут аператыўна змяшчаюцца эканамічныя і палітычныя навіны з адпаведнымі каментарыямі, друкуецца рэклама, праграма тэлеперадач на наступны тыдзень, чытачы рэгулярна знаёмяцца з рэпертуарам сталічных тэатраў і кінатэатраў, з іншай разнастайнай інфармацыяй. Адным словам, у новым штотыднёвіку кожны можа знайсці штосьці каштоўнае для сябе.

Варта адзначыць, што «Сталіца» паступова набывае сваю адметнасць, з нумара ў нумар яна робіцца ўсё больш змястоўнай і цікавейшай. Відаць, не будзе памылкай лічыць, што прыкметнаму росту папулярнасці штотыднёвіка садзейнічае зварот рэдакцыі да праблем беларускай нацыянальнай культуры, да вострых пытанняў этыкі і маралі ў хуткаплынным сучасным жыцці, да духоўнасці ўвогуле. Характэрны ў гэтым сэнсе і апошні, студзеньскі нумар газеты, адна са старонак якога з'яўляецца тэматычнай — «Сталіца духоўная». Клірыкі менскага Свята-Пётра-Паўлаўскага Сабора Г.Патушка і А.Клімаў у сваім палемічным артыкуле выступаюць супраць шматлікіх астролагаў, экстрасэнсаў, прыхільнікаў розных містычных, магічных школ, якіх у сродках масавай інфармацыі зараз чамусьці шаноўна называюць «гаючымі лекарамі і настаўнікамі». Аўтары, спасылаючыся на Святое пісанне, падкрэсліваюць, што згаданыя «гаючыя лекары» (Глоба, Чумак, Джуна, Кашпіроўскі і інш.) па сутнасці з'яўляюцца толькі... звычайнымі калдунамі, дзейнасць якіх ніколі не мела нічога агульнага з пашырэннем высокай духоўнасці. Тут жа да сапраўднага вытравання чалавечых душ заклікае і біблейскі прапаведнік А.Дылюк, які таксама рэзка крытыкуе разнастайныя ілжывыя вераванні апошняга часу.

У пастаяннай рубрыцы газеты «Гасцёўня «Сталіцы» на гэты раз — народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч, у афармленні якога выдавецтва «Мастацкая літаратура» нядаўна выпусціла ў свет на рускай, беларускай і англійскай мовах кнігу «Песнь Песней» (пераклад Васіля Сёмухі). Знакаміты мастак расказвае чытачам аб сваёй рабоце над кнігай. Ён заўважае, у прыватнасці, што звяртанне зараз да старадаўніх біблейскіх сюжэтаў — не выпадковасць, бо якраз сёння з эстрады, з кіна- і тэлеэкранаў, праз друкаваную прадукцыю ідзе хваля пошласці і цынізму, якая спусташае, збядняе нашы душы.

На заканчэнне адзначым: вельмі прыемна, што «Сталіца», якая афіцыйна лічыцца «інфармацыйна-рэкламным штотыднёвікам», піша не толькі аб хлебе надзённым. Шкада толькі: беларускамоўных матэрыялаў у газеце па-ранейшаму мала.

**М.В.**

ВЕДА

# Што Бог даў...

## Частка IV. Руна... Залатое.

Беларусь называюць краінай балотаў. І мы самі да гэтага ўжо прывыклі і паўтараем чужыя словы. Той-сёй лёс свой кляне, што давялося нарадзіцца тут, дзе, нібы, нічога, апроч балота, і быць не можа. Але ці запраўды так? БелСЭ падае, што з агульнай плошчы балотаў нашай планеты 350 млн. гектараў толькі 2,5 млн. гектараў (0,7 працэнта) мае Беларусь. Умоўна, яны займаюць менш за 10 працэнтаў тэрыторыі нашай краіны. А для прыкладу, у хвойна-лясной зоне Еўрапейскай часткі былога Саюза забалочана трэць абшараў.

**1**. Ці ведаеце, дзе знаходзяцца балоты: «Вялікая Руда», якое ляжыць на ваадзеле Нёмана і Дняпра, «Пагоня», «Качайла», «Грычын», «Чысці», «Уюнішча»?

Пра якую мясцовасць пісаў Аркадзь Смоліч: «Палеская нізіна паднята над роўнем мора толькі на 45—70 сажаняў, творачы... сярод акружаючых яе ўзвышшаў катліну глыбінёй у 20—50 сажаняў... дно Палескае катліны на захадзе крыху вышэйшае, на ўсходзе ніжэйшае, і з гэтае прычыны воды з Палескае нізіны маюць натуральны сток на ўсход... Спад гэты, аднак, зусім нязначны... Там, дзе рэкі, зьбліжаючыся да свайго ўпаду ў Прыпяць, падыходзяць блізка адна да аднае, сеці іхніх пратокаў злучаюцца і пакрываюць значныя прасторы. Найбольшы з такіх прастораў ляжыць на поўдня ад... і называецца... Вясною і ўчас паводак уся гэтая мясцовасць на дзесяткі вёрст навокала заліваецца вадою і выглядае на адно вялікае возера, сярод якога дзе ня дзе на вышэйшых грудкох разбудаваліся палескія вёскі...» Ці не Пінскае гэта возера, пра якое ведаў бацька гісторыі Герадот?

**2**. У пераліку прыродных скарбаў, якімі, паводле Уладзіміра Караткевіча, Бог надзяліў беларусаў, балоты не згадваюцца. Чаму? Прапануем колькі варыянтаў адказу: а) Уладзімір Караткевіч добра ведаў, што паводле нашых паданняў і легендаў балоты створаныя д'яблам. б) Нашаму славутаму пісьменніку балоты запраўды падаваліся «Боскай карай». в) Тады, калі Бог надзяляў зямлёю беларусаў, якія яму, як згадвалася, надта спадабаліся, не было слова балота? Ці не было такой прыроднай з'явы, ад якой мы імкнёмся пазбыцца і якой мы грэбуем?

**3**. У ліку найбольш вядомых нашых балотаў — Арэхаўскі Мох (у Пухавіцкім раёне), Вялікі Мох (у Міёрскім), Эсьмонаўскі Мох (у Бялыніцкім), а таксама іншыя імшары Беларускага Паазер'я: Грыблаўскі Мох, Мох, Чысты Мох. Гэта, амаль паўсюдна сфагнавыя, пераважна вярховыя балоты, названыя так таму, што парасլі мохам сфагнумам. Ён любіць расці ў ціхіх прэсных азёрах з мяккаю чыстаю вадой і пясчаным дном. А «мяккай» яна падаецца таму, што ў ёй няма мінеральных солям, ці, як кажуць, яна не мінералізаваная.

**Пытанні**: а) Ці можна сказаць так, як да гэтага часу ў нас гавораць: «гнілая балотная вада»? б) Ва ўсім свеце цяпер найбольшая каштоўнасць — чыстая пітная вада. То ці варта «асушаць» нашыя імшары? Ці не разбіваем мы чароўны збан з «жывою вадой»? в) Ці назва, у якой ёсць слова «Мох», азначае толькі тое, што балота сфагнавае? г) Ці можна сказаць, што слова «Мох» азначала раней тое, што мы цяпер называем балотам? д) Якімі словамі называюць у вашых родных мясцінах той цуд прыроды, што пераважна вядомы пад назвай імшара, мох?

**4**. Але пра так званыя Палескія балоты — асобная гутарка. Найперш, як у нашай казцы паляцім за трыдзевяць земель у трыдзесятае царства. А ў тым царстве прырода надта ж падобная да нашага Палесся. Вось што напісана ў прадмове да кнігі Леанарда Вулі «Ур халдзеяў», у якой распавядаецца пра раскопкі ў Паўднёвым Іраку, у даліне ракі Еўфрат аднаго з самых старажытных гарадоў на Зямлі: «...в древнейшую эпоху эта долина далеко не походила на рай. Разливы рек превратили долину в сплошное болото, с губительными лихорадками. Тростниковые джунгли, покрывавшие болота, кишели москитами. Там водились львы, змеи. Поэтому первые обитатели попали в Двуречье против воли, загнанные туда из окружающих долину степей более сильными соседями. И только упорный, необычайно тяжелый, изнурительный труд десятков поколений превратил Двуречье в цветущую страну». (Перакладзіце на беларускую мову.)

І для параўнання — урывак з нарыса І. Сербава «Падарожжа па Палессю ўлетку 1912 года»: «...палешуки в общем народ — умный, живой и трудолюбивый. Со стороны он кажется как-будто бы неповоротливым и сонливым, особенно, когда бредет с волом по болоту, но на деле он сметлив, быстр и ловок. Болото кормит полешука, оно дает ему все необходимое для жизни. На болоте он пасет гаўядо, здесь же на островах он делает загоны и засевает на них хлеба. Живут полешуки в большом достатке, имеют основательные постройки, много скота и достаточно хлеба. Между ними есть богачи, распологающие наличностью в десятки тысяч рублей. Той специфически-вонючей грязи и копоти, с которыми обыкновенно принято связывать представление о нашей деревне, на Полесье нет. Здесь, наоборот, во всем видна хозяйливость, опрятность и достаточная чистота». (Перакладзіце на беларускую мову.)

Як бачым, жыхары Палесся да прыходу бальшавікоў не здагадваліся, што яны «няшчасныя». Паводле статыстычных звестак 1905 г. у гэтым краі, як і на ўсёй Беларусі на захад ад Дняпра, на 100 жыхароў прыпадала 46 галоў рагацізны, іншага ж быдла — 124. Мяркую, скептыкі скажуць: «Насолдка жылося «людзям на балоце»! Паглядзім, што гаворыць статыстыка: «У Менскай губерні больш за ўсё пчалярства развітае ў Пінскім, Мазырскім і Бабруйскім паветах; у 1899 годзе налічвалі калодаў з пчоламі: у Пінскім павеце — да 30 000 вулляў, прададзена (а колькі пакінута сабе?!?) мёду да 2000 пудоў і воску да 350 пудоў...»

**5**. Паводле БелСЭ, на Беларусі ёсць 6925 балотаў з запасам торфу-сырцу 30,4 млрд. кубічных метраў. А таму нашы нараканні на паліўны крызіс падаюцца мне падобнымі на анекдатычную скаргу качкі, якая па вадзе плавае і піць просіць.

Пра падобную да сённяшняй сітуацыю пісаў Мельнікаў Ёзік з-пад Снова ў сёмым нумары за 1908 год газеты «Наша Ніва»: «Вядома ўсім, што ў Беларусі шмат балот, але што ў гэтых балотах ляжыць багацце вялікае — торф, ня кожны знае. Торфам можна паліць у печы, угнойваць поле; робяць з яго нават тканіны, а ёсць такія гатункі торфу, што можна даваць як корм скаціне... Мужыкі чулі, што торфам паляць, але самі не браліся за гэта... мерзлі мужыкі па хатах, ляскалі зубамі... Жыве ў нас кравец Андрэй (нездарма кажуць, што Андрэй — за ўсіх мудрэй. — *З.С.*), мае бадай не капу дзяцей. Нехват грошай ня толькі на дровы, але і на хлеб!.. Нагледзеўся ён, як дзеці торф паляць, набраў кускоў сухога торфу на балоце, прынёс у хату, наклаў у печы і падпаліў трэскамі... Смяяліся некаторыя з Андрэя, што ён балотам паліць у печы і гатуе есьці... На другі год многа гаспадароў сталі капаць торф на зіму...»

Некаторыя нашы навукоўцы кажуць, што паліць торфам — тое самае, што паліць грашыма. Святая гэта праўда. Але да гэтага часу Інстытут торфу АН Беларусі не навучыў нас рабіць грошы з балотных скарбаў. І можна сабе ўявіць, што не толькі «горны воск» можна здабыць з торфу, асабліва з таго, што залягае на глыбіні дзесяці метраў (а на Арэхаўскім Моху пласт торфу — 11,5 метра). Чутна было, што польскі даследчык атрымаў з торфу рэчыва, якое лечыць анкалагічныя захворванні. Нашыя навукоўцы з Віцебска здабылі з торфу рэчыва аксігідрат, якое стымулюе рост агародніны, збожжа.

*(Заканчэнне будзе.)*

Склаў Здзіслаў **СІЦЬКА**.

Культура мовы

*Павел СЦЯЦКО*

# Раіліся з Хімаю Чыгрын...

## Пра беларускія формы прозвішчаў і іх перадачу на іншыя мовы

Мы, беларусы, як і іншыя народы, маем свае адметныя імёны і прозвішчы. Але за больш як дзвесцегадовы ўціск з боку польскіх і расійскіх уладаў, ды, асабліва пасля наркомаўскай рэформы 1933 года, беларускія прозвішчы пазбавіліся фанетычных адметнасцяў беларускай мовы — акання, якання, дзекання, цекання і інш. — і сталі пісацца на чужы лад: Володько (беларускае Валодзька), Редько (Рэдзька), Борис (Барыс), Лазарюк (Лазарук).

Гэты гвалт з нашай культуры і мовы быў і ў Заходняй Беларусі. Напрыклад, на Зэльвеншчыне з 1920 да верасня 1939 года не было ніводнай беларускай школы, а толькі польскія. Малых дзетак з першага класа прымушалі размаўляць толькі папольску, каралі за кожнае роднае слова. Я быў сведкам усяго гэтага як вучань «повшэхнэй» школы ў роднай вёсцы Грабава...

І на прыкладзе майго прозвішча Сцяцко добра відаць, як імкнуліся апалячыць нас. У роднай вёсцы Грабава і навакольных — Старое Сяло, Валькевічы, Савічы, Дзярэчын, Угрынь, Паляжын, Мілявічы, Марачы, Алексічы, Варонічы, Бібікі, Крывічы, Плецянічы і іншыя — маіх дзядоў і бацькоў так клікалі — Сцяцко. І ў суседніх вёсках гэткае прозвішча бытавала. Напрыклад, у в.Савічы было некалькі сем'яў з прозвішчам Сцяцко. І каб адрозніць насельнікаў розных вёсак, казалі: савіцкі Сцяцко, грабаўскі Сцяцко. Палякі перарабілі гэтае прозвішча на свой капыл — Стэцко (Stecko). Потым і па-расійску — Стецко.

У Гродзенскім раёне ёсць нават вёска Сцяцкі. І ў Стаўбцоўскім таксама. Але на польскіх і расійскіх картах яны пісаліся на чужы лад: Стэцкі ці Стецки.

Адмены знявечання прозвішча я дамогся пры атрыманні новага пашпарта толькі падчас працы ў Менскім педінстытуце. І вось яно, беларускае, Сцяцко значыцца на дваццаці кніжках і 200 артыкулах, што выйшлі ў беларускіх выданнях.

Цяпер, калі мы рыхтуемся да атрымання беларускіх пашпартоў, трэба асабліва разважна падысці да правільнага афармлення сваіх прозвішчаў. На пісьме мусяць быць захаваныя ў прозвішчах фанетыка і арфаграфія нашай мовы, натуральнае гучанне роднага слова. Павінна была сказаць сваё важкае слова на карысць адраджэння натуральных графічных формаў нашых уласных асабовых імёнаў і прозвішчаў і Дзяржаўная арфаграфічная камісія па ўдакладненні беларускага правапісу. На жаль, яе праца была спынена знарок, каб затармазіць ці і наогул спыніць працэс дэрусіфікацыі нашай літаратурнай мовы.

Як грунтоўна давёў акадэмік Мікола Бірыла, шматлікія прозвішчы — гэта пераасэнсаваныя былыя імёны (асабліва іх гутарковыя формы) і мянушкі людзей. Так, статус прозвішчаў набывалі рэдкія адметныя ў пэўнай мясцовасці імёны, як Кузьма, Барыс, Валодзька, Іванка, Івашка. А таксама мянушкі, што паходзяць ад назваў раслінаў, жывёлінаў, прадметаў побыту і г.д. У беларускай мове, як і ў блізкіх ёй суседніх украінскай, польскай і іншых заходнеславянскіх мовах, нямала такіх вось «празрыстых» прозвішчаў: Заяц, Мядзведзь, Ліс, Воўк, Журавель, Сава, Пчала, Мурашка, Рэдзька, Дудка, Качарга, Дзежка, Скрэбла, Скобла, Сала, Каўбаса... Ёсць і прозвішчы-прыметнікі: Кіслы, Руды, Гаркавы, Крывы, Кароткі, Тоўсты, Зялёны, Белы, Гняды, Сухі, Гарбаты і іншыя. Ад гэтых і іншых слоў з выкарыстаннем актыўных у беларускай мове словатворчых сродкаў (суфіксаў) узнікла шмат вытворных прозвішчаў — Ваўковіч, Каўбаска, Крывіч, Беленькі, Зялёнка, Гарбач і г.д.

Такія вось «празрыстыя» прозвішчы найперш і сталі аб'ектам перакручвання на расійскі лад — падчас службы ў савецкай арміі ці навучання або працы ў савецкіх, расійскамоўных, установах.

У нашым Гродзенскім універсітэце на лекцыях спецкурсу «Праблемы нармавання беларускай літаратурнай мовы», які я чытаю чатыры гады, даводзіцца ў сяброўскай гутарцы пераконваць студэнтаў пісаць свае прозвішчы менавіта так, як яны гучаць у родных мясцінах, роднай гаворцы. І як вынік — студэнты атрымліваюць дыпломы пра сканчэнне Гродзенскага універсітэта з натуральным запісам іх прозвішчаў: Рэдзька, Дудка, Бочка, Валодзька, Барыс, а не з ранейшымі перакручанымі Радзько, Валадзько, Дудко, Бачко, Борыс. Студэнты пераконваюцца, што ўсе прозвішчы — гэта чыста поклічныя словы, якія не маюць у наш час нічога супольнага з тым назоўнікам ці прыметнікам, з якімі яны супадаюць у гучанні. Тое ж прозвішча Казёл ці Муха нічым не саступае вытворным Казлоў ці Мухін. Бо Казлоў — гэта (першапачаткова) сын Казла, Мухін — сын Мухі.

І калі з прозвішча Казёл рабіць Козел, то і іншыя трэба было б адаліць ад сугучных апелятываў (агульных назваў): Заяц — хіба што Заёнц (на польскі лад) ці Зайц, Воўк — Вільк ці Ваўк. А як быць з Мухай, Лісам, Мядзведзем, Лебедзем, Сарокай? А ніяк. Мы не павінны цурацца ўласных асабовых найменняў, якія перадаюцца ад пакалення да пакалення, ад нашых прадзедаў, дзядоў і бацькоў да дзяцей, унукаў. А такія з іх, як Казёл, Авечка — раней называлі «святых жывінаў», што ахоўвалі чалавека ад бядотаў жыцця.

Пры перадачы нашых прозвішчаў на іншыя мовы трэба захоўваць іх транслітарацыю, г.зн. перадаваць беларускія літары адпаведнымі літарамі іншых алфавітаў — ангельскага, польскага, расійскага і г.д.

Пры транслітарацыі павінна быць захавана графічнае аблічча беларускага прозвішча, у якім (графічным абліччы) перадаюцца адметныя рысы беларускай мовы (дзеканне, цеканне, аканне, яканне і іншыя). Прыкладам, прозвішчы Пчала, Валодзька і па-расійску павінны пісацца так, а не Пчела, Володько.

Надта слушныя думкі пра натуральныя беларускія формы нашых прозвішчаў і іх расійскамоўныя эквіваленты выказаў на старонках «Нашага слова» добры знаўца беларускай культуры і мовы Уладзімір Содаль. Сапраўды, адкуль у беларусаў такія расійскамоўныя формы, як Лаппо, Лебядко, Дюбо, Лапоть, Суббот, Тикоцкий. На абедзвюх мовах тут павінны быць аднолькавыя формы: Лапа, Лябедзька, Дзюба, Лапаць, Субат, Цикоцки.

Беларускія прозвішчы на -ін, -ын таксама нярэдка перакручваюць на небеларускі лад. Прыкладам, Русін, Літвін, Чыгрын, Гавін, Гурын, Логвін, Чыквін і падобныя пры абазначэнні асобы жаночага полу раптам набываюць канчатак -а: Русіна, Літвіна, Чыгрына і г.д. Ці апраўданая такая форма? Не, нічым не можна яе абгрунтаваць. Форму жаночага роду маюць толькі тыя прозвішчы, якія паходзяць ад уласных жаночых імёнаў і ўтвораныя ад іх з выкарыстаннем суфікса -ін-: Зосіна, Зініна, Ларына. Гэта былыя прыналежныя прыметнікі: Зося — Зосін (сын) і Зосіна (дачка), Зіна — Зінін і Зініна і г.д. Што да згаданых прозвішчаў Літвін, Русін, Чыгрын і пад., то яны не маюць сваіх утваральных словаў, а наадварот, самыя гэтыя прозвішчы выступаюць утваральнымі да больш новых прозвішчаў: Літвін — Літвінаў, Русін — Русінаў, Чыгрын — Чыгрынаў. Першасна яны таксама былі прыналежнымі прыметнікамі: Чыгрынаў — сын Чыгрына, Літвінаў — сын Літвіна. Адсюль вынікае, што формы Чыгрын, Літвін, Русін і пад. адначасова абазначаюць асобу і мужчынскага і жаночага полу. Пры абазначэнні асобы жаночага полу такія прозвішчы не павінны скланяцца, як і Міцкевіч, Пашкевіч і падобныя.

Як піша ў лісце да аўтара гэтых радкоў вядомы беларускі літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук Іван Чыгрын, прозвішча Чыгрын на Слонімшчыне ніколі не скланялася, калі яно належала асобе жаночага полу, і прыводзіць прыклад, як звярталіся вяскоўцы да яго маці Хімы: «Пайшлі да Хімы Чыгрын», «Раіліся з Хімаю Чыгрын», «Казалі пра Хіму Чыгрын...»

Так, гэта натуральна і нармавана. І калі цяпер некаторыя носьбіты гэтакіх прозвішчаў імкнуцца іх скланяць пры абазначэнні асобы жаночага полу (з Інай Чыгрыной, з Аленай Русінай), то гэта няправільна. Тут зблытваюцца розныя паводле паходжання прозвішчы.

І Іван Чыгрын зусім справядліва абураецца такімі паводзінамі некаторых «Чыгрыных» — асобаў жаночага полу.

Дык будзьма самімі сабою! Беларусамі! З сваімі ўласнымі прозвішчамі. Яны ў нас нічым не горшыя за іншыя. Проста трэба кожнаму ўсвядоміць нашу адметнасць і тое, што прозвішча — гэта не словапаняцце, а толькі пэўны ярлык-назоў. Напрыклад, у мястэчку Дзярэчын на Зэльвеншчыне шэраг сем'яў маюць прозвішча Казёл і не перарабляюць яго на Козел ці Казлоў. І ніхто тут не звязвае гэтае прозвішча з адпаведным найменнем жывіны. Кажуць: «Пайшоў да Івана Казла», «Гаварыў з Іванам Казлом» і г.д.

Акрамя прозвішчаў, нам трэба знармаваць і імёны. Добрую рэч робіць «Наша слова», друкуючы старонкі грунтоўнага слоўніка ўласных імёнаў, падрыхтаванага Сымонам Барысам. Варта на пасяджэннях Рэспубліканскай і абласных Радаў Таварыства беларускай мовы абмеркаваць гэты слоўнік і прыняць адпаведныя захады, каб потым раіць наш нацыянальны беларускі іменнік да выкарыстання ў афіцыйных дакументах.

Мікалай КРЫЎКО – беларушчына
Алена ШЧУКА – ангельшчына

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРААХАЛАДЗІЦЬ** (вельмі ахаладзіць, астудзіць або ахаладзіць, астудзіць больш, чым трэба) *Пераахаладзіць арганізм,* **ПЕРАХАЛАДЗІЦЬ** *Перахаладзіць цела,* **ПЕРАСТУДЗІЦЬ** *Перастудзіць цела. Перастудзіць суп. — Незакончанае трыванне:* **Пераахало́джваць, перахало́джваць, пераасту́джваць.**

**ПЕРАБІВА́ЦЦА** размоўнае (жыць бедна, дрэнна, ледзь зводзячы канцы з канцамі) *Сама [Ганка] перабівалася сяк-так, маўклівa і прытоена для пабочнага вока. На людзях нікому не скардзілася ні на свой лёс, ні на сваю пакутную ўдовіну беднасць* (Кулакоўскі). *Сям'я перабіваецца сяк-так, і з трэцяга ці з чацвёртага класа рэальнага вучылішча ты корміш сябе сам* (Мехаў), **ПЕРАБАЎЛЯ́ЦЦА** разм. *Жэня асталася ў Менску, працавала на розных падсобных работах, а бывала так, што і нідзе не працавала, перабаўлялася сяк-так на вадзе і сухарах* (Кулакоўскі). *Другія браты не мелі сталай работы, перабаўляліся выпадковымі заробкамі* (Лынькоў), **ПРАБІВА́ЦЦА** разм. *К.А.Касовіч увесь гэты час прабіваўся прыватнымі ўрокамі* («Маладосць»). *Суцяшаюць маму хлопцы: — Мы вясной усё здабудзем! — Як прыгрэе добра сонца, пойдзем зноў тады мы ў людзі. Нам абы зіму прабіцца!* (Дубоўка), **ПЕРАКІДА́ЦЦА** разм. *Сцепаніда неяк перакідалася, і, тым часам, дзеці павыгадоўваліся, павырасталі, павыходзілі кожнае на сваю дарогу жыцця* (Сабаленка). *Ну дык неяк жа каля іх перакідаецца і самая малодшая ў сям'і Валя* (Васілевіч), **ПЕРАКІ́ДВАЦЦА** разм. *Аднаму гараджаніну дроў насячэ, другому — печ падрамантуе, трэцяму — акно рубанкам падгладзіць, каб добра зачынялася... Так і перакідваецца з дня на дзень* (Сіняўскі). *Ён, Сцяпан, таксама быў рады новай кватэры, колькі гадоў туліліся ў чужым кутку, сяк-так перакідваліся ў трысцене* (Гіль), **КІДАЦЦА** разм. *Пакуль жылі са старэнькаю маткаю толькі ўдзвюх, неяк кідаліся, перабіваліся* (Янкоўскі). *Нават самыя бедныя і малыя сіроты не ішлі туды [у дзіцячы дом], а неяк кідаліся каля дому ў наймітах і пастухах* (Каваленка), **БІ́ЦЦА** разм., узмацняльнае *Але як ён [Сымон] на бацькавай палосцы — усё без хлеба, усё ў нястачы жыць даводзіцца* (Якімовіч). *Білася, гаравала маці адна: і вайну ўсю, і ў пасляваенную бясхлебіцу* (Дзятлаў). *То скалоціць град дазвання, То пажар, то недарод... Так і мучацца звычайна. Б'юцца рыбай з года ў год* (Броўка), **ПЕРАБІВА́ЦЦА З ХЛЕ́БА НА КВАС** разм., узмацн. *[Касперскі:] — Пакуль працаваў, яшчэ тудысюды было перабіваўся з хлеба на квас, а як апынуўся на вуліцы, дык хоць кладзіся і памірай* (Гурскі). *Вырасла б Анюта, пасватаў бы яе такі самы бедны хлопец, і пачалі б яны перабівацца з хлеба на квас* (Корбан), **ПЕРАБІВА́ЦЦА З ВАДЫ́ НА КВАС** разм., узмацн. *Кеўлялі сяк-так, перабіваліся, як кажуць, з вады на квас і з квасу зноў на ваду Хапацеі* (Сачанка). *[Сёмка:] — Знайшлі прытулак. Жывём патроху, з вады на квас перабіваемся* (Кандрусевіч), **ПЕРАБІВА́ЦЦА З ХЛЕ́БА НА СОЛЬ** разм., узмацн. *Усё жыццё, як і ён, Васіль, перабіваўся [сусед Пучынскі] з хлеба на соль — ні той зямлі, ні належнай гаспадаркі* (Няхай), **ПЕРАБІВА́ЦЦА СА СКАРЫ́НКІ НА ВАДУ́** разм., узмацн. *Карміўся Юзік бульбяным шалупіннем, перабіваўся са скарынкі на ваду, пакуль гаспадарыла чорная навала* (Хадановіч), **ПЕРАБІВА́ЦЦА З БУЛЬБЯ́НІКА НА КВАС** разм., узмацн. *[Сынклета Лукічна:] — Перабіваліся яны бедныя [сіроты] з бульбяніка на квас* (Шамякін), **ПЕРАБІВА́ЦЦА З МЯКІ́НЫ НА ЛЕБЯДУ́** разм., узмацн. *Але напаткала няўдача — у вёсцы калгаснікі ўжо таксама ледзь перабіваліся з мякіны на лебяду* (Чыгрынаў), **ПЕРАБІВА́ЦЦА З АГУРКО́Ў НА КАПУ́СТУ** разм., узмацн. *[Мікода:] — Еш, таварыш, харчы ў мяне не вельмі, так вось перабіваюся патроху, то з агуркоў на капусту, то з капусты на агуркі* (Галавач), **ПЕРАБІВА́ЦЦА З Я́ГАД НА АРЭ́ХІ** разм., узмацн. *Перабіваўся [Аўхім Гулькоў] з ягад на арэхі і жывучы ў лесе ў вайну* (Пысін), **ПЕРАКІДА́ЦЦА З ХЛЕ́БА НА ВАДУ́** разм., узмацн. *Прадаў сваю зямлю, а сам пачаў перакідацца з хлеба на ваду выпадковымі заробкамі — хедзіў капаць канавы, гаціў грэблі, а то часам наймаўся ў пастухі* (Сачанка), **ПЕРАКІДА́ЦЦА З БУ́ЛЬБЫ НА КВАС** разм., узмацн. *Неяк перакідаліся з бульбы на квас, але не дзяліліся, сям'я была дружная* (Машара), **ПЕРАКІДА́ЦЦА З ХЛЕ́БА НА СА́ЛА** разм., узмацн. *Дробны злодзей з невялікага павятовага гарадка ён [Стась Курачка] так-сяк перакідаўся з хлеба на сала, з квасу на гарэлку ў Заходняй Беларусі аж да прыходу Савецкай улады* (Чарнышэвіч), **БІ́ЦЦА ЯК РЫ́БА АБ ЛЁД** узмацн. *Гарэцкая. Яны [дзеці] мне ўсе родныя. Білася я як рыба аб лёд, а рабіла ўсё, каб толькі яны з голаду не памерлі* (Губарэвіч). *Земляроб быў дробны: біўся, як рыба аб лёд, на нізкай зямлі, падпраўляў кару мукой. Малако ад кароў меў сіняе, і таго не мог уволю ўжываць; карова больш была падобна да жабы, чым да рагатай жывёлы* (Чорны).

**ПЕРАБІВАЦЦА.** Англійская мова выглядае тут значна бяднейшай: у ёй нельга знайсці столькі адпаведнікаў, тым больш да шматлікіх беларускіх сінонімаў з іх багатай варыятыўнасцю назваў рознай ежы («з хлеба на соль», «з бульбы на квас» і інш.). Шырокаўжывальныя ідыёмы ў англійскай мове тут наступныя: **live from hand to mouth** (літаральна «жыць з рукі ў рот») і make ends meet (сучасны скарочаны варыянт ранейшага выразу make both ends meet (літаральна «прымусіць абодва канцы злучыцца»).

**ПЕРАБІ́ЦЬ** (ударыўшы, зламаць, пераламаць) *Учора, калі адыходзілі ад чыгункі, асколкі перабілі яму [Пецю] абедзве нагі* (Шашкоў). *Аскабалкам жалеза яму [Васілю] перабіла плячо, моцна ўдарыла ў грудзі* (Лынькоў), **ПЕРАЦЯ́ЦЬ** і **ПЕРАТНУ́ЦЬ** *Зразумела, перш за ўсё Волат у лес падаўся; бачыць, адзін дуб стаіць — ён яго з коранем вырваў; бачыць другі стаіць — ён яго кулаком напалам перацяў* (Шарахоўскі). *Васіль хацеў яшчэ сцебануць яго [каня] па спіне, але адчуў, што рука, перацятая гарачым ударам [кулямёта] бездапаможна абвісла* (Грамовіч). *Тырчэлі напалам перацятыя выносістыя хвоі, кашлатыя елкі, хіліліся долу, як маладзіцы, убраныя ў белае белле, бярозы і нават магутны дуб не ўстаяў супраць бога вайны — цяжкай артылерыі* (Гурскі). *— Незакончанае трыванне:* **Перабіва́ць, перацiна́ць.**

Эдвард ЗАЙКОЎСКІ,
кандыдат гістарычных навук

*Гісторыя беларускага пісьменства*

# Дакірылічнае пісьмо на Беларусі

*(Працяг.)*

Першымі меркаванымі славянскімі рунамі пэўны час лічыліся надпісы на стодах з Прыльвіца (тэрыторыя палабскіх славян), апублікаваныя ў 1771 г. Падобнымі былі знакі на камянях з выявамі бога Прове і каня, знойдзеныя ў Мікожыне каля Познані, а таксама на медальёне з Кракава. Колькасць аналагічных знаходак значна ўзрасла ў пачатку XIX стагоддзя, калі было выяўлена мноства манетаў, медальёнаў і г.д. з нібыта дакірылічнымі надпісамі.

Польскі даследчык Тадэвуш Валяньскі ў 30-я гады мінулага стагоддзя нават выдаў некалькі кніг, дзе абагульняліся ўсе знаходкі са «славянскімі рунамі». Там жа прыводзіўся вядомы па крыніцах XVI стагоддзя рунічны «літоўскі» алфавіт, якім нібыта быў выкананы надпіс на сцягу легендарнага правадыра прусаў Відэвута. Але потым прыйшлі да думкі, што і прыльвіцкія статуэткі, і іншыя славянскія дахрысціянскія надпісы — падробкі. Зрэшты, існаванне надпісу на сцягу Відэвута некаторыя сучасныя навукоўцы лічаць рэальным, але прапануюць іншае яго прачытанне.

Пра тое, што ў старажытных жыхароў Беларусі існавала нейкае дакірылічнае пісьмо, сведчаць і археалагічныя дадзеныя. Два шэрагі літарападобных знакаў ёсць на гліняным праселку з гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі каля в.Малышкі Вілейскага раёна, якое датуецца пачаткам нашай эры. Некаторыя знакі паўтараюцца. Група знакаў маецца на праселку таго ж часу з гарадзішча днепра-дзвінскай культуры каля в.Кастрыца Лепельскага раёна. Археолаг Генрых Татур яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя паведамляў пра знаходку каменнай пліты, «пакрытай незразумелымі буйнымі надпісамі ў некалькі радкоў, высечанымі выразна і глыбока», каля мястэчка Пагост у цяперашнім Бярэзінскім раёне. У Бабруйскім павеце, недалёка ад ракі Пціч, згодна з інфармацыяй таго ж аўтара, знаходзіўся камень, на якім надпіс складаўся з літар, па форме «накшталт птушыных лапак». Камень з надпісамі, зробленымі літарамі невядомага алфавіта, выяўлены каля в.Пнеўшчына Горацкага раёна. Пазней гэты камень загінуў пры пажары. Яшчэ адзін загадкавы надпіс быў зафіксаваны на камені з в.Сынкавічы пад Зэльвай. На сярэднявечным медальёне-змеевіку з Ваўкавыска, акрамя выяваў, па крузе бачныя нейкія літарападобныя знакі.

На месцы старажытнабеларускага горада Дарагічына (зараз на поўдні Беласточчыны) яшчэ больш за стагоддзе назад даследчыкі сабралі сотні свінцовых пломбаў (напэўна, гандлёвых пячатак X—XVI стст.), якія засталіся ад колішняй мытні, «варотаў на Захад». На адным баку некаторых з гэтых пломбаў стаіць літара кірыліцы, на адваротным баку — адзін з загадкавых знакаў.

Археолаг з Гародні І.Г.Трусаў нядаўна абагульніў досыць значны матэрыял пра знакі на плінфе XII ст. з Каложскай і Ніжняй цэркваў княскага церама. Частку знакаў ён вызначыў як малюнкі або піктаграмы, ёсць таксама выявы кірылічных і лацінскіх літараў. Большую ж частку знакаў ён лічыць рунічнымі запісамі, выявамі, асобнымі рунамі або складанымі абрэвіятурамі з рунаў. На адной з клінфаў з Каложы нанесены досыць доўгі надпіс, які налічвае 9 або 10 знакаў. Па меркаванні І.Трусава, рунічныя знакі з плінфаў часткова адрозніваюцца ад скандынаўскіх рунаў і маюць аналогіі з англа-саксонскім і гоцкім рунічнымі алфавітамі. З ваколіцаў Гародні паходзіць таксама праселка з надпісам, што складаецца з сямі знакаў. Л.В.Аляксееў, які апублікаваў яго, тры знакі вызначыў як літары кірыліцы, а астатнія не змог ідэнтыфікаваць.




Яшчэ ў 1912 годзе летувіскім вучоным І.Басанавічусам была апублікавана выява так званай пячаткі Міндоўга, знойдзенай Г.Татурам каля Навагрaдка. На адным баку пячаткі была выява «Пагоні», над ёю карона, а па баках — дзве постаці вояў, што падтрымліваюць карону. Па баках пячаткі ішоў рунічны надпіс. Пра сапраўднасць пячаткі ёсць розныя думкі. Аргументам на карысць скептыкаў з'яўляецца тое, што шлем вершніка і яго шчыт не адпавядаюць XIII стагоддзю, а маюць больш позні выгляд. Да таго ж на адваротным баку пячаткі невядома чаму дадзены герб Радзівілаў і надпіс, што гэта пячатка адной з цэркваў.

*(Працяг будзе.)*

*Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»*

# Коласавы зернеткі

Валянціна ВЫХОТА

*(Працяг.)*

*Гарачы дзень. На полі душна.*
*.................................*
*Зацішак поля дыша варам*
*І гоніць з твару поту рагі,*
*І сохнуць губы ад той смагі.*

**Вар**. Ням. warm 'цёплы', с.-в.-ням. warm, ст.-в.-ням. war(a)m, гоц. *warms ад warmjan 'грэць'. І.-е. *ue̯r-: *uo̯r- праяўляецца ў хец. u̯ar- 'гарэць', ст.-слав.varŭ 'жар, спякота'. І.-е. gʷhormo адпавядаюць грэч. thermós, лац. formus 'цёплы', ст.-слав. gorěti 'гарэць'.

*— Ну, вось і дома, дзякуй богу! —*
*Прыйшлі у хату, ўсіх цалуюць,*
*З святым вялікаднем віншуюць.*

**Віншаваць.** Ням. begluckwunschen узыходзіць да двух слоў, другое з іх wünschen 'жадаць' утворанае ад Wunsch m 'жаданне'. Wünschen с.-в.-ням. wünschen, ст.-в.-ням. wunsken, і.-е. *u̯en 'жадаць, любіць'.

*І толькі вам, мае браточкі,*
*Каб не дажыў я гэтай ночкі,*
*Хачу прадаць сваю пасаду,*
*А сам за гандаль я засяду,*
*Мае вы родненькія братцы, —*
*Хачу я сальнікам заняцца.*

**Гандаль.** Ням.Handel m утварылася ў познесярэдневерхненямецкай (позн.с.-в.ням.) ад handeln. У ранненававерхненямецкай (ран.-нов.-в.-ням.) мела агульнае значэнне 'нешта, з чым трэба рабіць', 'справа, занятак'; handeln, ст.-в.-ням. hantalōn ад Hand f 'рука'. Першапачатковае асноўнае значэнне 'абмацваць рукамі, рухаць, апрацоўваць'.

*І рад нагружаных хурманак*
*Паволі рушыў, мінуў ганак...*

**Ганак.** Ням. Gang m аддзеяслоўны назоўнік сільнага дзеяслова ст.-в.-ням. gangan, гоц. gaggan 'ісці'. І.-е. корань *ĝhengh-: ĝhongh- 'крочыць, ступаць'. У беларускай мове слова ганак выступае толькі ў адным значэнні, ням. Gang m мае шмат значэнняў, сэнс якіх заключае ў сабе паняцце «ход».

*І зараслі не палынамі,*
*.................................*
*А беларускаю бядою.*
*Ды покі будзе сэрца біцца,*
*Яно не зможа пагадзіцца*
*Ні з гэтым гвалтам, ні з бядою*
*Над нашай роднаю зямлёю.*

**Гвалт**. Ням. Gewalt f, ст.-в.-ням. giwalt m, f. Узыходзіць да walten 'панаваць, цараваць, кіраваць', с.-в.-ням. walten, ст.-в.-ням. waltan, гоц. waldan. І.-е. корань *u̯al- 'быць моцным'. Мае адпаведнасці ў іншых індаеўрапейскіх мовах. Лац. valēre 'быць у сілах, мець сілу'. Ст. слав. vlasti 'валодаць, панаваць'.

*— Сядай, мой мілы, мой харошы,*
*Бо за "пастой" не плацяць грошы, —*
*Сказаў сярмяжнік дабрадушна.*

**Грошы**. Ням. Groschen m 'мелкая манета', с.-в.-ням. grosse. Лац. grossus 'тоўсты', Groschen m ад с.-лац. denarius grossus 'тоўсты пфенінг', 'тоўстая капейка'. У нямецкай мове Groschen m толькі дробная манета. Параўнайце: грош (паўкапейкі).

*(Працяг будзе.)*

*Дапытлівым*

# «Ы» ДАПАМАГАЕ РАЗГАДАЦЬ ТАЯМНІЦЫ

У кніжцы «Праславянская письменность. Результаты дешифровки» (М., 1993) яе аўтар Г.С.Грыневіч згадвае, што ён зрабіў невялікае даследаванне некалькіх урыўкаў кірылічнага тэксту «Слова пра паход Ігараў». Выявілася, што ў даследаваным тэксце «Слова...» **ы** сустракаецца (у сярэднім) 5 разоў, **ь і ъ** — адпаведна 7 і 30 разоў.

Аўтар таксама параўноўвае колькасць літар кірыліцы (43), глаголіцы (40) і невядомай «азбукі» «Влесовой книги» (45—47). І вось, у апошняй, нягледзячы на большую колькасць яе літараў, «не знайшлося месца для знакаў, што абазначаюць гук [ы], а таксама для звышкароткіх галосных, для якіх у кірылічным алфавіце ёсць **ъ і ь**». Таму Г.С.Грыневіч сцвярджае, што «Влесова книга» была напісана пісьмом, падобным да пісьма тыпу «чэртаў і рэзаў». Бо і ў ім не было і не магло быць асобных знакаў для гукаў, якія мы ў нашай азбуцы абазначаем знакамі **ы, ь, ъ**.

А такія разважанні аўтар робіць дзеля таго, каб даказаць, што так званая «Влесова книга» не падробка, а запраўды старажытны помнік рускай пісьменнасці IX стагоддзя.

Колькі слоў пра гісторыю з'яўлення гэтай «кнігі».

Падчас грамадзянскай вайны афіцэр белай арміі знайшоў (паводле адной з версіяў у маёнтку князёў Куракіных ля Арла) драўляныя дошачкі, на якіх відны былі нейкія знакі, і забраў іх з сабою. У Бельгіі афіцэр паказаў іх эмігранту-гісторыку, які і «расшыфраваў» тэкст...

Каля трыццаці гадоў таму найлепшы даследнік старажытнага пісьма, вядомы мовазнаўца, палеограф і археограф Л.П.Жукоўская пасля вывучэння фотакопіі тэксту «Влесовой книги» зрабіла выснову: гэта падробка, бо мова кнігі не адпавядае нормам старажытнарускай мовы.

Для нас жа ў гэтым даследаванні Г.С.Грыневіча асабліва цікава тое, што літара **ы** можа дапамагчы даследчыкам.

З.С.




***Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Эйна Лейна (1878—1926) стаіць каля вытокаў новай паэзіі Фінляндыі, што стваралася на мове большасці карэннага насельніцтва гэтай краіны. Менавіта гэты творца ўзбагаціў родную мову, надаўшы ёй сапраўды еўрапейскі кшталт.

*Эйна ЛЕЙНА*

## Наш Бог

Я шукаў выток вытокаў
і пачаткі ўсіх пачаткаў:
бога, карані тварэння;
я шукаў мяжу бязмежжа.
Разгадаў цяпер загадку:
бог наш — гэта зло ды гора.

Гора свет апанавала,
завалодала зямлёю,
Налягцела навальніцай,
разлілося, нібы мора;
зоркі вечныя ў нябёсах
у сутонні патанаюць.

Змрок і злосць у самым сэрцы
гнёзды чорныя звіваюць,
колюцца калючкай дзікай
і атручваюць пачуцці;
паглядаюць пільным вокам
на забавы маладосці.

## Ружовы світанак

Ружовы світанак у небе лунаў,
дзяўчына плыла праз узлескі.
У росах дрымотных мурожыстых траў
сінелі вачыма пралескі.

Дзяўчына-дзянніца ішла па траве
павольнаю плаўнай хадою.
Ледзь чутна пралескі віталі яе
і ногі ўмывалі расою.

## Гімн агню

Хто сам — агонь, таму агнём паляць,
з зямлі хто выйшаў, будзе ў ёй ляжаць.
Хто ж прагне ў неба ўзнесціся высока —
Таму радкі ад песняра-прарока.

Дык што мы? Попел? Пыл з магіл? Ды не:
з тла дух выходзіць і — увысь імкне.
Стаць попелам нам вызначана лёсам.
Пакуль жа ты агнём ляціш к нябёсам.

А што палае? — Існае. Хто змог
яго запальваць? — Толькі Дух, Пан Бог.

Шчаслівы лёс — стаць вугалем каменным;
а нетры засынаюць сном таемным.

Ад сну ўваскрэсні ў працы, ў барацьбе,
стань сонцам, як пакліча Бог цябе
ўвасобіць, здзейсніць мары ўсіх вякоў,
што цьмяна выглядалі для бацькоў.

Кароткі надта наш жыццёвы шлях,
але гарэнне будзе меццъ працяг,
Паляць давайце ярка, доўга! Глеба
зямное прыме, прыме душу неба.

**Пераклад з фінскай Якуба ЛАПАТКІ.**

Ганарар — у фонд рэдакцыі.

### *Мама, пачытай!*

*Павел МІСЬКО*

## Духата

Спацела сонейка ад спёкі,
Нырнула ў хмарку душ прыняць,
Каб потым чыстым, яснавокім
Над цэлым светам зноў заззяць



## Прапала душа

Ці ёсць у ледзяша душа?
Няма душы ў ледзяша.
Каб у яго была душа,
То не было б і ледзяша.



## Пазваніце па нуль-тры

Піла ела дуб, дуб,
Паламала зуб, зуб...
Енчыць бедная ад болю,
Аж качаецца па доле:
— Дайце ліпы пакаштую,
Пчолы мёд з яе гатуюць!
Прынясіце сліву, вішню,
Падлячуся, стану ўвішнай.
Буду рада вінаграду...
І наогул — дайце рады!
Рады дайце, памажыце!
Зубы хусткай завяжыце!
У бальніцу пазваніце!
Во-о-ой, балі-і-і-іць...



## Салодкі сон



— Мама, сніў я сон салодкі,
Быццам еў я шакаладкі,
З пасцілой уперамешку!
— Ну, сынок, — салодкаежка!

## Чарапаха і слімак



Вось каму прывольна жыць:
Ім няма куды спяшыць!
Ды куды спяшыць тады,
Калі дома ты заўжды?!

## Тапкі

Памагаю татку:
Зноў шукаем тапкі.
Тапкі ўсё ўцякаюць —
У хованкі гуляюць.



## Качка-рыбачка

Качка йшла ля рэчкі.
Раптам бачыць — вуду:
«Вось цяпер на вуду
Я рыбачыць буду.
Толькі чарвяка я
Зараз адшукаю».
Ледзь знайсці паспела —
Як сама і з'ела.



*Станіслаў ВАЛОДЗЬКА*

## Дана

«Р» не выгаварыць Дана,
Замест «крама» кажа «квама».
Мама гушкае дачушку:
— Данка, ты мая квакушка.



### *Вечарыны*

# «Смех — не жартачкі»

Пад такім дэвізам у сталічным Доме літаратара прайшла незвычайная вечарына, на якой адбылася прэзентацыя... анекдотаў і небыліц, сабраных вядомым пісьменнікам Уладзімірам Ліпскім у палескіх вёсках Малыя Аўцюкі і Вялікія Аўцюкі. Зборнік гумару іх насельнікаў павінен хутка выйсці з друку. А паколькі дасціпныя дыялогі і байкі палешукоў так і просяцца ў п'есу, то Алесь Петрашкевіч даў ім месца ў сваім новым драматычным творы, таксама незвычайным, паколькі ў аўцюкоўскі гумар ён украпляе свой (у форме дыялогаў і каментарыяў), які рухае дзеянне і служыць адлюстраванню калек-тыўнага партрэта саміх аўцюкоўцаў, іх прыроджанага, Богам дадзенага характару. Напрыклад: «Няма такой работы, каб аўцюковец не зрабіў; няма такіх нягод, каб аўцюковец не перажыў; няма такога пытання, каб ён не даў адказу на яго.

Кажуць: рукі — да работы, ногі — да ахвоты, а галава — да ўсяго.

Найбольш спрытныя могуць і выхваляцца:

— У мяне, маўляў, больш розуму ў пяце, чымся ў цябе ў галаве».

Артысты Ю.Авяр'янаў, Г.Пальчэўская і М.Пятроў чыталі ролі, седзячы ў крэслах.

Адкрыццё духоўнага свету аўцюкоўцаў засведчыла, што ў культуры беларусаў не ўсё даследавана і вывучана. Складальнікі анекдотаў і небыліц успрымаюцца як нейкі асобы народ, надзелены мудрасцю і гумарам, з языком, вострым бы перац. Будзем спадзявацца, што на сёлетнім рэспубліканскім фестывалі сатыры і гумару, які адбудзецца на іхняй зямлі, аўцюкоўцы зоймуць годнае месца, пасля чаго на іх, як і на тых габраўцаў, будуць «навешваць» усе краёвыя анекдоты.

Напачатку вечарыны прысутныя даведаліся, што ўсе жанчыны ў Аўцюках (Малых і Вялікіх) — Калінкі, а ўсе мужчыны — Каласкі, кожны з іх мае яшчэ і сваю мянушку-дражнілку, або вычварку. Па сапраўднаму прозвішчу могуць хату не паказаць, а назавеш мянушку — кожны падкажа. Прыкладам, у адных толькі Малых Аўцюках прыжыліся такія мянушкі: Борман, Боцман, Буржуй, Бежанец, Бомбачка, Буян, Бахіла, Вузел, Гусак, Глёк, Грак, Дзяк, Жолуд, Костка, Камсамолец, Кот, Квасоля, Крэмсіха, Камісар, Кавадла, Лапа, Лінок, Лежань, Лось, Медны, Малдаван, Мамон, Мядзведзь, Міністр, Мёд, Пеўчыха, Рыгаль, Рабатанька, Сэвэтэ, Сёпапон, Селянец, Тузіха, Шамяля, Шындаль, Чарнамор, Француз, Цыган, Цар і іншыя. У мясціне, дзе ўсе смяюцца з усіх і самі з сябе, нават родны бацька не прапусціць магчымасці пасмяяцца з родных дзетак. Так, Рыгор лупаты ў яго — Вол, васпаваты Антон — Рэпнік, Валодзя, у якога ногі чапляюцца адна за адну, — Клішун, а Міша, у якога валасы рэдкія, — Скубенік.

Калі папытаць у аўцюкоўца, дзе знаходзіцца ягоная вёска, ён адкажа прыкладна так:

— У Еўразіі!

— Побач з Мазыром і Калінкавічамі!

— Каля Гліннай Слабады!

— Там, дзе Аўцюкі Вялікія (Малыя) і да таго падобнае.

І толькі ў аўтара п'есы можна знайсці дакладны адказ на гэтае пытанне: «Калі ехаць па шашы Гомель—Калінкавічы, то міжволі прыкмеціш два ўказальнікі. Справа — вёска Малыя Аўцюкі, злева — Вялікія Аўцюкі».

У Аўцюкі (Малыя і Вялікія) можна даехаць не толькі па шашы аўтобусам, але і па рэйках цягніком. Як апавядаў аднойчы адзін аўцюковец: «Прыйшоў я на вакзал, ушчаміўся ў акенца, узяў білет, увайшоў у вагон, адчыніў дзверы, а там маленькі пакойчык і белае крэсла. Сеў я на гэтае крэсла, дастаў шмалец сала і ем. Чую, вада пабегла. Думаю: ну, тэхніка, не паспеў сала паесці, а ўжо ваду падаюць рукі памыць. Стукаюць. Я кажу: «Занята». Зноў стукаюць: «Да якога часу занята будзе?» Кажу: «Да Аўцюкоў». Тады праваднік прыходзіць, кажа: «Дзядзька, ты не на сваё месца сеў». Прыводзіць мяне ў вялікі пакой. Светла. Людзей багата і цёпла. З людзьмі даехаў да Галянічаў, а там рукой падаць да Аўцюкоў».

Пасля прачытання п'есы на сцэну выйшлі госці з Аўцюкоў — жанчыны і мужчыны ў тым вечным узросце, калі не скажаш, колькі гадоў. Самадзейныя артысты разыгралі дасціпныя сцэнкі «На вясковай вуліцы», спелі прыпеўкі, патупалі і паскакалі. Яны ўсяляк імкнуліся захаваць той імідж, які ім стварылі пісьменнікі. Так, паказваючы аўцюкоўскі нораў, на пытанне, з чым выйдуць на сцэну, госці адказалі: «А з чым захочам, з тым і выйдзем».

Вечарына ўдалася. І ўсё ж не магу не выказаць шкадаванне, што ў лік анекдотаў і небыліц, якія прагучалі са сцэны, трапілі і «салёныя», што мяжуюць з дрэнным густам. Аўцюкоўскія анекдоты — спрэс бытавыя, часам вельмі сумныя, — смех скрозь слёзы (пра баб, гарэлку, сямейныя звадкі і інш.). З «чорнага гумару» вылучаюцца жарты пра Пецьку, які дома чуе адну брудную лаянку і лаецца сам. «Кім вырасце Пецька-каласок? Чым уславіць сваё імя і Вялікія Аўцюкі? — Бальшой вапрос, як той Лукашэнка кажа», — заключае аўтар п'есы.

Запісаныя на вечарыне жарты і небыліцы насельнікаў Аўцюкоў (Малых і Вялікіх) чытайце на апошняй старонцы нашай газеты.

**Ірына КРЭНЬ.**



**На здымку:** Ансамбль «Сябры».

# Дом літаратара запрашае ў лютым

| | | | |
|---|---|---|---|
| 15 лютага серада | Прэзентацыя мастацкага фільма рэжысёра Дзмітрыя Зайцава «Кветкі правінцыі» паводле аднайменнага рамана Георгія Марчука | 18.30 | Вялікая зала ДЛ |
| 22 лютага серада | Секцыя перакладу Замежная літаратура і адукацыя | 15.00 | Канферэнц-зала ДЛ |
| 23 лютага чацвер | Прэм'ера кнігі мініяцюр і вершаў у прозе Анатоля Кірвеля «Урбанія» | 18.30 | Кавярня ДЛ |
| 28 лютага аўторак | «Пішу я, бо плача сэрца» Да 105-х угодкаў нараджэння пісьменніка Казіміра Сваяка | 18.30 | Вялікая зала ДЛ |

*Пароды*

Вінцук АСЬЦЮК

## Не малю, не чакаю, не плачу...

*Не малю, не чакаю, не плачу:*
*«Я — маленькі, пагладзьце мяне...»*
*Не звядуся, хоць здзецца, канаю, —*
*Ёсць маленькая просьба ў мяне:*
*«Ты — адзіная! Ты — маладая!*
*Ты пагладзь па маёй сівізне!»*

**Міхась Стрыгалёў.**

Не малю, не чакаю, не плачу:
«Я — маленькі, пагладзьце мяне»,
Бо я маю вялікую дачу,
Праўда, дача мне снілася ў сне.

Не крычу, не раву і не выю,
Хай вялікія выюць, равуць.
Мне суседкі паселі на шыю
І вялікім мне стаць не даюць.
Не звядуся, хоць здэцца, канаю,
Ёсць маленькая просьба ў мяне:
«Ты — адзіная! Ты — маладая!
Ты пагладзь па маёй сівізне».
«Не жалею, не зову, не плачу,
Все пройдет, как с белых яблонь дым...»
Я маленькі, ды я ж нешта значу
І я буду вечна маладым.

*Іранічнае*

Слабадан ВУКАНАВІЧ

## У смехатэцы

Калі я з'явіўся на арэне,
Апладысментамі віталі мяне
І Смехахор,
Назапашваючы зубаскальства.

Пусцілі раз'ятраных Смяхістаў,
Каб мне барабанілі
Па мазгах.

Джыгіты на свіннях
З языкамі-коп'ямі
Разганялі паветра
На ўсе бакі.

Парыкамі раздавалі запал
І адпаведныя настроі,
Сервіруючы іх на свой густ.

Схапіўшы за вушы мяне Смяхоній,
Правалок па арэне
І кінуў угару
Ад захаплення.

Смяхісты дзівавaліся
З штукарства Смяхоніевага,
А мяне смехааплёўвалі.

У Смехатэцы Смехафлоту
Лічбы і позы
Сведчаць пра існаванне
Магчымых і немагчымых
Смехаў.

Смяхограф увекавечыў
Мой момант
Як доказны матэрыял
Дробнай радасці.

Смех вытлумачваецца
Паводле патрабаванняў колераў

Адчуванні не бяруцца
Як аблягчальная акалічнасць.
Непацверджаныя досведы
Дзейнічаюць няпэўна.
У націску кветак — усмешка
Па замаўленні.
Цяпер я смяюся ў адпаведнасці
З раскладам настрою.

**Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.**

# Пачутае ад аўцюкоўцаў

* * *

Сусед у бальніцу падаўся.
— Доктар, каласок, палячы, захварэў.
— Што баліць?
— Жывот.
— Ад чаго баліць?
— Ад смеху!
От і кажуць, у Аўцюках: «Не кожны хворы, хто стогне».

* * *

Сустрэліся былі два аўцюкоўцы:
— Ты, каласок, куды?
— Туды. А ты?
— Адтуль.
— Ты, каласок, ад каго?
— Ад яе. А ты?
— Да яе.
Пажартавалі. А пасля — пабіліся. Як праяснілася, хадзілі яны да адной маладзіцы.

* * *

Антон з Антсляй любяцца!.. Селі на лаўку ля Антолінай хаты. Антон палез цалавацца.
— Не чапай! — крычыць дзяўчына, каб маці чула, а хлопцу шэпча: — Чапай, чапай...
На другі вечар зноў селі. Антон і кажа:
— Што б ты, Антоля, зрабіла, каб я цябе пацалаваў?
— Крычала б: мама, мама!..
— Ну а тады што?
— А тады б нічога, бо мамы дома няма...

* * *

Памерла жонка ў аўцюкоўца. Сумна аднаму. Сустрэў удаву, прапануе:
— Давай, Калінка, разам жыць.
А ўдаве таксама сумна адной. Пагадзілася. Аўцюковец пасадзіў сваіх парасят на самаробную каляску, павёз у новы двор. Пажыў з удавою. Нешта загневаліся адзін на аднаго. Пагрузіў аўцюковец парасят у каляску, павёз дамоў. Праз нейкі час зноў сышліся, потым разышліся. Парасяты да таго прывыклі катацца, што як толькі гаспадар выпускаў іх з катушка на двор — адразу беглі да каляскі.

* * *

Бацька Пецькаў Мікола ад гарэлкі сканаў. Ляжыць, як спіць. На другі дзень пасля пахавання маці знайшла Пецьку на могілках. Адкопваў бацьку. Ледзь угаварыла дамоў вярнуцца. Пецька ўсё паўтарае:
— Праспаўся, відаць, хай устае.

* * *

Вывучалі гукі розных жывёл. Настаўніца паказвае малюнак барана і пытае ў Пецькі:
— Хто гэта?
— Гэта муж авечкі.
— Якія ён гукі выдае?
— Такія, як і ягоная жонка.

* * *

А то яшчэ было. Прыходзіць у школу Пецька прыбраны, у новым касцюме.
— Пецька, ты сёння прыгожы?
— Ага, жаніцца вырашыў.
— З кім?
— Пайду жыць да Танькі Стрыгалкі...
На другі дзень з'яўляецца ў клас у спартыўным касцюме, тлумачыць настаўніцы:
— Перадумаў жаніцца.

* * *

А то неяк маці просіць:
— Пецечка, дапамажы рваць буракі.
— Ага хочаш каб мае рукі былі такія ж чорныя, як у настаўніцы?
У Аўцюках багата ў каго чорныя рукі. Нават брыгадзір, «каб падняць насяленне», дваццаць сотак буракоў сам прапалоў, вырасціў, вырваў. «Насяленне паднялі», рукі пачарнелі, а людзі багацейшымі так і не сталі.

* * *

Прыходзіць Пецька са школы. Сядзіць задуменны, сумны. Бацька:
— Што з табой?
— Ведаеш, татка, пяцёркі расхапалі напачатку заняткаў, а мне двойка засталася.
— Што рабіць цяпер?
— Давай з'едзем з Аўцюкоў.
— Куды?
— У Менск. Там, кажуць, беларускай мовы зусім няма.

* * *

Выхавацелька просіць дзяцей прыдумаць словы на літару «б». Пецька падняў руку:
— Я прыдумляць не буду.
— Чаму?
— Мама сказала, каб у садзіку не мацюкаўся.
З дапамогай выхавацелькі дзеці прыдумалі словы на гэту літару: бусел, булка, баранкі, баба, бубен, бык... Пецька і кажа:
— А праўда, добрыя словы, а я і не ведаў.

* * *

Аўцюкоўцы дражняць габраўцаў — слізкія. А ўсё пачалося з таго, як аднойчы габраўцы хрысцілі дзіцё. Вярнуліся з царквы ў хату, пачалі выпіваць. Раптам нехта кажа:
— Дзе дзіцё?
— Выслізнулася, — ікнуў той, што нёс. — Таксама, хоць смейся, хоць плач. Дык пайшлі шукаць тое дзіцё.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 47

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6789 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 13.02.1995 г. у 15 гадзін.